# У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

На чарговым пасяджэнні калегіі Кабінета Міністраў, якое праходзіла пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Сяргея Лінга, разгледжаны праект Нацыянальнай праграмы прыцягнення інвестыцый у эканоміку Рэспублікі Беларусь. Неабходнасць такой праграмы абгрунтавана ў адной з пастаноў Кабінета Міністраў яшчэ ў чэрвені мінулага года, паколькі інвестыцыйная сфера — матэрыяльная аснова працэсу ўзнаўлення грамадскага прадукту — у найбольшай меры адчула ўздзеянне негатыўных працэсаў у эканоміцы. Спад інвестыцыйнай дзейнасці, як канстатавалі распрацоўшчыкі праграмы, аказаўся больш глыбокім, чым зніжэнне вытворчасці. У параўнанні з 1990 годам сумарныя інвестыцыі ў эканоміку рэспублікі зменшыліся ў сем разоў. Гэта, як вынік, прывяло да росту аб'ёмаў незавершанага будаўніцтва. Цяпер рэестр «незавяршонкі» ўключае звыш 11 тысяч аб'ектаў вытворчага прызначэння, прыпынена або законсервавана будаўніцтва яшчэ трох тысяч аб'ектаў. Аўтары праграмы вымушаны былі канстатаваць, што інвестыцыйны крызіс прыняў такі характар, пры далейшым развіцці якога можна прыйсці да неабарачальнага спаду вытворчасці.

Аўтары праекта праграмы прапанавалі комплекс мераў, накіраваных на павелічэнне прытоку ўкладанняў у беларускую эканоміку для пераадолення яе крызісу і структурнай перабудовы. Размова ідзе аб удасканаленні нарматыўнай базы ў сферы інвестыцыйнай дзейнасці і прывядзенні яе ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі, стварэнні ўмоў, пры якіх прадпрыемствы самі змогуць накопліваць інвестыцыйныя рэсурсы, забеспячэнні прыросту нацыянальнага капіталу дзякуючы супрацоўніцтву дзяржаўнага і прыватнага сектараў эканомікі, інтэграцыі банкаўскага і прамысловага капіталаў, зніжэнні кошту крэдытных рэсурсаў, развіцці рынку каштоўных папер, сеткі інвестыцыйных і іншых спецыялізаваных банкаў, страхавых, фінансавых, лізінгавых, траставых фондаў, прыцягненні замежнага капіталу ў выглядзе прамых укладанняў, вяртанні вывезеных з рэспублікі капіталаў...

Адбылося грунтоўнае абмеркаванне праекта, у якім прынялі удзел віцэ-прэм'еры, міністры, юрысты, прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта, банкаў. Работу над праграмай вырашана прадоўжыць, затым унесці яе на зацвярджэнне Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь.

На пасяджэнні калегіі ўрада абмеркаваны таксама праекты часовых статутаў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь: Статута ўнутранай службы, Статута гарнізоннай і вартавой службы, Дысцыплінарнага статута. Цяпер беларускія ваеннаслужачыя жывуць і дзейнічаюць па статутах, якія дасталіся ім ад Савецкай Арміі. Многія іх палажэнні ўстарэлі і нават уступаюць у супярэчанне з заканадаўствам рэспублікі. Новыя статуты павінны зацвярджацца Вярхоўным Саветам. Аднак гэты працэс патрабуе значнага адрэзку часу, а армія не можа жыць без сваіх унутраных законаў. Таму вырашана, што будзе правільным вынесці на зацвярджэнне Прэзідэнта часовыя агульнавайсковыя статуты, затым ва ўстаноўленым парадку дабівацца іх зацвярджэння ў парламенце.

Праекты прапанаваных агульнавайсковых статутаў адобраны калегіяй Кабінета Міністраў. Іх дзеянне пасля зацвярджэння Прэзідэнтам будзе распаўсюджана на ўнутраныя, пагранічныя, чыгуначныя войскі, войскі КДБ і іншыя вайсковыя фарміраванні, створаныя ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Калегія Кабінета Міністраў адобрыла таксама праект закона аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі. У ім прадугледжваецца, што індэксацыя даходаў, атрымліваемых з бюджэтных крыніц, будзе ажыццяўляцца ўрадам шляхам павышэння мінімальнай зарплаты і ставак першага разраду. Гасразліковыя прадпрыемствы страты ад інфляцыі будуць кампенсаваць за кошт сваіх сродкаў на падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі.

**БЕЛТА.**

# НА РАДЗІМУ БАЙКАПІСЦА — СА СВАІМІ БАЙКАМІ

**30 сакавіка ў г. п. Узда будзе праходзіць заключны тур Першага нацыянальнага фестывалю беларускай байкі.**

Фестываль будзе самым вясёлым і значным мерапрыемствам з прымеркаваных да 100-гадовага юбілею караля беларускай байкі — Кандрата Крапівы. Ужо былі праведзены адборачныя рэгіянальныя туры фестывалю ва ўсіх раёнах Мінскай вобласці, а ў суботу іх пераможцы збяруцца на Уздзеншчыне, на радзіме пісьменніка, каб паспрачацца за званне лаўрэата.

Высветліць некаторыя падрабязнасці маючага адбыцца свята мне дапамагла загадчык адзела культуры Уздзенскага райвыканкома Ганна Міхальчук.

За званне лаўрэата будуць змагацца індывідуальныя чытальнікі баек, выканаўцы жартоўных танцаў і гульнёвых праграм, інтэрмедый і сцэнак, песень па матывах беларускіх баек. Мяркуецца правесці выстаўкі лепшых рэгіянальных мастакоў, дзіцячых малюнкаў, печываў, выставу-продаж вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Усе экспанаты гэтых паказаў будуць прысвечаны, вядома ж, сюжэтам ці персанажам беларускіх баек.

Асаблівая ўвага будзе ўдзелена конкурсу народнай байкі. У літаратурнай гасцёўні за права звацца лаўрэатам будуць спаборнічаць лепшыя байкапісцы вобласці.

Удзельнікі свята наведаюць вёску Нізок, у якой нарадзіўся Крапіва. На школе будзе адкрыта мемарыяльная дошка, а ў яе будынку — музей. Памятная дошка з'явіцца таксама ва Уздзе, на вуліцы, названай у гонар пісьменніка, а ў школе, названай яго імем — самай вялікай у гарадскім пасёлку, — адкрыецца экспазіцыя «Жыццё і творчасць К.Крапівы».

Маленькіх жыхароў Узды далучаць да народнай байкі выступленні лялечных тэатраў.

Карацей, у суботу ў Уздзе будзе весела і шумна. Галоўнае, каб яшчэ было суха і сонечна: фестываль будзе праводзіцца пад адкрытым небам.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

# ПАГЛЯДЗІЦЕ НА НЕБА!

Гэты здымак нябеснай госці — каметы Хіакутаке (Хіакутаке-2), адкрытай ў свой час японскімі вучонымі, атрыманы ў абсерваторыі сярэдняй школы № 2 г. Наваполацка. Настаўнік астраноміі Аляксандрр Радзюшкін і яго выхаванцы сфатаграфавалі камету тады, калі яна была бліжэй за ўсё да Зямлі: 24 сакавіка гэтая адлегласць вымяралася «ўсяго» 15 мільёнамі кіламетраў.

Цікава, што даўжыня каметнага «хваста» — каля 6 мільёнаў кіламетраў!

Светлыя штрышкі — гэта зоркі, на фоне якіх так хутка рухаецца камета. Праўда, цікава?

Яна і зараз адкрыта для вачэй дапытлівых людзей, наша нябесная госця. Да 30 сакавіка ад крайніх зорак «ручкі» каўша Вялікай Мядзведзіцы яна перамесціцца ў сузор'е Малой Мядзведзіцы. Потым камета крышку паблякне, хоць уважлівыя назіральнікі яе заўважаць. Астраном-аматар Іван Міхайлавіч Сяргей з Маладзечна нам з вамі гарантуе: другі спрыяльны для назірання каметы перыяд пачнецца з 20 красавіка і працягнецца да некалькіх першых дзён у маі. Яна будзе выдатна бачна пасля заходу Сонца ў паўночна-заходнім сектары неба — спачатку ў сузор'і Персея, затым «пяройдзе» ў сузор'е Авена.

**Кар. «Звязды».**

## «КРЫШТАЛЬНАЯ ПАЎЛІНКА» ЗНАЙШЛА ГАСПАДЫНЮ

**27 сакавіка ўсе, хто мае дачыненне да рампы, глядзельнай залы, куліс — карацей, да тэатра, адзначылі разам са сваімі калегамі ва ўсім свеце Міжнародны дзень тэатра. З нагоды гэтага свята ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбылася ўрачыстая вечарына.**

Традыцыйна ў гэты святочны вечар былі ўручаны прызы Міністэрства культуры і саюза тэатральных дзеячаў па выніках мінулага тэатральнага сезона.

Галоўны прыз — «Крыштальную Паўлінку» — атрымала народная артыстка СССР Аляксандра Клімава. У мінулыя сезоны гэты знак найвышэйшага акцёрскага майстэрства атрымалі Стафанія Станюта, Расціслаў Янкоўскі, Зінаіда Канапелька, Наталля Гайда.

Прыз надзеі — «Крыштальную кветку» — атрымаў малады акцёр эксперыментальнай творчай лабараторыі «Вольная сцэна» Алег Гарбуз за выкананне ролі Рычарда ў спектаклі «Рычард III».

Пяць бронзавых статуэтак «Натхненне» таксама знайшлі сваіх гаспадароў. Хоць выглядалі прызы знешне абсалютна аднолькава, кожны з іх насіў імя нейкага вядомага тэатральнага дзеяча. Прэмію імя Ларысы Александроўскай атрымала група артыстаў балета за стварэнне спектакля на музыку Андрэя Мдзівані «Страсці». Прэмія імя Я. Міровіча была прысуджана кіраўніку балетнай трупы ДАВТ Валянціну Елізар'еву. Ігару Забару, артысту Альтэрнатыўнага тэатра, дасталася прэмія імя Ігната Буйніцкага, прэмію імя Лазарэўскай атрымаў малады рэжысёр тэатра юнага гледача Юрый Бута, а прэмію імя Кандрата Крапівы — прафесар універсітэта культуры Юлія Чурко. А вось астатнія два прызы — «Крыштальныя Кароны» — былі ўручаны спонсарамі, ці, як іх прынята называць у артыстычным коле, мецэнатам — Беларускаму аддзяленню фонду Сораса і дырэктару вытворча-камерцыйнай фірмы «Ю. А.» Аляксандру Мураўёву.

Уручалі прызы вядомыя на ўсю краіну людзі, сярод якіх былі міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў Аляксей Дударау, артысты Наталля Гайда, Марыя Захарэвіч, Тамара Кніжнікава, Віктар Лебедзеў.

Акрамя традыцыйных прызоў, карпарацыя «Дайнова» сумесна з фірмай «Філіпс» уручыла свае падарункі пяці маладым акцёрам Купалаўскага тэатра.

Пасля ўрачыстай часткі прадстаўнікі ўсіх буйных тэатраў сталіцы парадавалі гледачоў сваімі выступленнямі.

На працягу ўсёй праграмы яе вядучыя, артысты Купалаўскага Зоя Белахвосцік і Алесь Лабуш з'яўляліся на сцэне ў розных вобразах, жартаўлівымі дыялогамі ўносячы ажыўленне ў залу.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

## У ГРОДЗЕНСКІМ ЗААПАРКУ ЗАБІЛІ ЯГУАРА

**Дзесяцігадовага ягуара, занесенага ў Чырвоную кнігу, адзінага ў Гродзенскім заапарку ды і, напэўна, у краіне забілі ў ноч з мінулай нядзелі на панядзелак.**

Два варвары пералезлі цераз агароджу на тэрыторыю, распілавалі нажовачным палатном замок і, трапіўшы ў «хату» да прыгажуна, застрэлілі яго. Потым злачынцы пацягнулі сваю ахвяру да агароджы (відаць, спатрэбілася ім шкура), аднак, сутыкнуўшыся з вартаўніком, кінулі ягуара і далі драпака. Такога вандалізму за 25 гадоў работы ў заапарку яго дырэктар Ада Пятрова яшчэ не бачыла. Міліцыя ўзбудзіла крымінальную справу.

Такім чынам, не ўсе гадаванцы заапарка дачакаюцца сёлетняй паводкі. Паводле слоў Ады Іванаўны, іх эвакуацыі з пастаяннага месца жыхарства, аб магчымасці якой пісалі многія газеты (у тым ліку і «Звязда») пасля прэс-канферэнцыі кіраўніцтва аддзела Гродзенскага аблвыканкома па надзвычайных сітуацыях, не прадбачыцца. Усё падрыхтавана для таго, каб абысціся без гэтага. У прыватнасці, з тэрыторыі заапарка вывезены снег, прачышчана труба, каб быў нармальны сцёк вады з тутэйшага вадаёма. З дапамогай паддону на большую вышыню падняты клеткі з птушкамі, некаторыя насельнікі заапарка пераведзены ў іншыя памяшканні, дзе ім не будзе пагражаць паводка.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## Вячаслаў КЕБІЧ: «КРЫХУ ПРЫКРА І ЗАЙЗДРОСНА»

**Тэма інтэграцыі Беларусі і Расіі не новая, яна выкарыстоўвалася многімі беларускімі палітыкамі. Як вядома, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у нашай краіне найбольш актыўна ў гэтым накірунку дзейнічаў былы прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч. Аднойчы ён нават назваў аб'яднанне двух народаў сваёй жыццёвай мэтай. Пасля выступлення ў парламенце Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, якое было прысвечана ходу інтэграцыйных працэсаў паміж Беларуссю і Расіяй, наш карэспандэнт задаў некалькі пытанняў дэпутату Вячаславу Кебічу.**

**— Мяркуемае падпісанне саюзнага дагавора можна лічыць рэалізацыяй і вашых даўніх планаў?**

— Не поўнасцю. Бо ў мой час размова ішла аб больш шырокай інтэграцыі, якая прадугледжвала нават аб'яднанне грашовых сістэм.

**— Вам не крыўдна, што іншыя рэалізуюць тое, да чаго нямала сіл прыклалі і вы?**

— Асаблівай крыўды няма, хіба што прыкра крыху, ды яшчэ, можа, зайздросна, бо я нямала зрабіў, каб збылося тое, што мы бачым сёння.

**— Апошнім часам вам не паступалі запрашэнні з боку выканаўчай улады?**

— Не. Я ўжо не раз выказваў свае думкі наконт гэтага: так, я не магу сёння выкарыстаць поўнасцю ўсе свае магчымасці, напрацоўкі, сувязі і вопыт на карысць Рэспублікі Беларусь. Як ні прыкра, мяне не запрашаюць.

**— А ў чым прычына?**

— Я мяркую, у неёўрапейскім падыходзе нашых сённяшніх уладаў да выкарыстання прафесіяналаў. Іх элементарна не цэняць. Напрыклад, былых прэзідэнтаў ЗША заўсёды выкарыстоўваюць, прычым у вырашэнні вельмі важных дзяржаўных праблем. У нас такія падыходы не ў модзе. У нас «былыя» — гэта значыць «дрэнныя». І забываецца адначасова тое, што сённяшнія «добрыя» праз нейкі час стануць «былымі». І яны трапяць у такое ж становішча.

**— А якія захады вы сёння робіце для рэалізацыі сваёй даўняй мэты як дэпутат, як прэзідэнт гандлёва-фінансавага саюза?**

— Я працягваю працаваць на карысць эканамічнага дабрабыту нашай краіны, наколькі магчыма развіваючы эканамічныя сувязі паміж нашымі краінамі. Што датычыцца канкрэтных спраў, то зусім свежы прыклад. Нам удалося знайсці ў Расіі пастаянных пакупнікоў бабруйскай мэблі. Мы завязваем новыя кантакты, забяспечваем сыравінай, матэрыяламі шэраг нашых прадпрыемстваў.

**— Як вы ацэньваеце заключаемы саюзны дагавор з Расіяй?**

— Вы заўважылі, што Аляксандр Лукашэнка сказаў, маўляў, гэта рамачны дагавор. А што гэта значыць? Рамачны дагавор — гэта дамова аб намерах, якую яшчэ трэба будзе напаўняць канкрэтным зместам.

**— Як вы мяркуеце, ці не чакае сённяшнія ініцыятывы такі ж лёс, як і дагавор аб аб'яднанні грашовых сістэм, аўтарам якога былі вы?**

— Справа ў тым, што зараз і ў Беларусі, і ў Расіі існуюць моцныя палітычныя сілы, якія паспрабуюць зрабіць усё, каб гэты дагавор не працаваў.

**— Наколькі моцныя гэтыя сілы?**

— Гэта вельмі сур'ёзна. Яны не пабаяцца выкарыстаць нават самы магутны фінансавы ціск.

**Гутарыў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

Адбылася цырымонія афіцыйнага адкрыцця паслом ЗША ў Беларусі Кенетам Яловіцам і першым намеснікам начальніка Галоўнага штаба Узброеных Сіл РБ генерал-маёрам Валерыем Хацкевічам лабараторыі дыстанцыйнага зандзіравання і збору геаграфічнай інфармацыі. Гэтая лабараторыя ў комплексе з іншымі кампанентамі дазваляе дакладна вызначыць зоны таксічных і небяспечна заражаных месцаў на былых стратэгічных ваенных базах.

Адкрыццё лабараторыі з'яўляецца добрым прыкладам ваеннага супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь і ЗША.

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## УКРАІНСКІ ПРЭМ'ЕР ЛІЧЫЦЬ, ШТО Ў ВЫПАДКУ ПАДПІСАННЯ САЮЗНАГА ДАГАВОРА ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І РАСІЯЙ УКРАІНА ПАВІННА БЫЦЬ ГАТОВА ДА ЗМЯНЕННЯ АКЦЭНТАЎ У СВАЁЙ ЗНЕШНЯЙ ПАЛІТЫЦЫ

«Кожная дзяржава абірае свой знешнепалітычны курс самастойна, і гэта справа кіраўніцтва і народаў Расіі і Беларусі, якім шляхам ісці», — заявіў у інтэрв'ю журналістам прэм'ер-міністр Украіны Яўген Марчук, каменціруючы аб'яўленае падпісанне Саюзнага дагавора паміж Расіяй і Беларуссю. Ён падкрэсліў, што «курс Украіны вядомы і застаецца нязменным — інтэграцыя, эканамічнае супрацоўніцтва з Расіяй і Беларуссю».

Аднак украінскі прэм'ер-міністр адзначыў, што «Украіна не можа непасрэдна паўплываць на развіццё падзей, але яна павінна быць гатова да неабходнасці змянення акцэнтаў у сваёй знешняй палітыцы».

**УНІАН-БелаПАН.**

## У СВЕЦЕ

### ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**● АБСЕ АБВІНАВАЦІЛА РАСІЙСКІХ ВАЙСКОЎЦАЎ**

Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе абвінавачвае федэральныя войскі ў Чачні ў сістэматычным прымяненні ўзброеных сіл супраць мірнага чачэнскага насельніцтва. Як адзначаецца ў дакладзе місіі АБСЕ ў Грозным, на працягу апошніх тыдняў расійскія войскі без разбору абстрэльваюць некаторыя чачэнскія паселішчы, у якіх знаходзяцца прыхільнікі Джахара Дудаева. Пры гэтым расійская армія выкарыстоўвае артылерыю, баявыя верталёты і ракеты. У дакладзе падкрэсліваецца, што такія дзеянні варта расцэньваць як вядзенне вайны супраць цывільнага насельніцтва. Місія АБСЕ таксама асудзіла байцоў Джахара Дудаева за захоп заложнікаў, узгадаўшы, што гэта з'яўляецца грубым парушэннем правоў чалавека.

**● УСЁ ЖЫЦЦЁ І ЯШЧЭ 6 ГАДОЎ**

Ізраільскі суд прызнаў Ігала Аміра вінаватым у забойстве прэм'ер-міністра Іцхака Рабіна і прысудзіў яго да пажыццёвага турэмнага зняволення. Адначасова Амір прысуджаны да 6 гадоў турмы за раненне супрацоўніка аховы прэм'ера. Амір прызнаў, што ён страляў у Іцхака Рабіна 4 лістапада мінулага года, але сцвярджаў, што ён не хацеў забіваць кіраўніка ўрада. Ён проста жадаў «перашкодзіць» яму працягваць мірны працэс на Блізкім Усходзе. У сваім заключным слове Амір зноў паспрабаваў апраўдаць свае дзеянні, сказаўшы, што ён забіў Рабіна дзеля дабрабыту народа Ізраіля.

**● «ПАСЛАНЦЫ БОЖЫЯ» ЗАХАПІЛІ САМАЛЁТ**

Трое грамадзян Саудаўскай Аравіі, што захапілі егіпецкі пасажырскі самалёт і прымусілі яго прызямліцца ў Лівіі, здаліся лівійскім уладам. На борце авіялайнера знаходзіліся больш як 140 чалавек, сярод якіх шмат іншаземцаў. Самалёт быў захоплены падчас пералёту ў Каір. Злачынцы патрабавалі сустрэчы з кіраўніком Лівіі Кадафі, заяўляючы, што яны маюць пасланне ад Бога, якое дазволіць вырашыць праблему блакады раёнаў палесцінскага самакіравання і праблему Судана.

**● ЧАРНОБЫЛЬ НА БЛІЗКІМ УСХОДЗЕ?**

Прэзідэнты Сірыі і Егіпта ў тэлефоннай размове абмеркавалі верагоднасць узнікнення пагрозы кшталту чарнобыльскай на Блізкім Усходзе. Небяспека зыходзіць ад ненадзейных атамных рэактараў ізраільскіх АЭС. У Сірыі і Егіпце складваецца своеасаблівы камітэт на ўзроўні Кабінета Міністраў. Мяркуецца, што ён увойдзе ў састаў міжнароднага камітэта па атамнай энергетыцы.

**● ЗГВАЛТАВАНЫ АМЕРЫКАНСКІ ВАЙСКОВЕЦ**

Два чэшскія вайскоўцы з саставу ўзброенага кантынгенту сіл ААН па падтрыманню міру ў Босніі абвінавачваюцца ў згвалтаванні вайскоўца-жанчыны з амерыканскага кантынгенту. Салдаты адмаўляюць факт згвалтавання і сведчаць, што ўсё адбылося па ўзаемнай згодзе. Чэшскі адвакат прыняў бок сваіх суайчыннікаў.

**● ЗША ЎВЯЛІ НОВЫЯ РЭГІСТРАЦЫЙНЫЯ ДАКУМЕНТЫ**

Урад Злучаных Штатаў пачаў шырокамаштабнае наступленне на вытворцаў і ўладальнікаў фальшывых дзяржаўных папер. Следам за абменам стодоларавых купюр Вашынгтон аб'явіў аб замене старых зялёных картак на дакумент новага ўзору. Працэдура абмену будзе праводзіцца пад наглядам Службы эміграцыі і натуралізацыі ЗША, якая і ўнесла гэту ідэю, сутыкнуўшыся з патокам фальшывых зялёных картак. У новым рэгістрацыйным дакуменце эмігрантаў будзе фатаграфія ўладальніка, адбітак яго пальцаў і подпіс. Акрамя таго, на новых зялёных картках будзе стаяць тэрмін іх дзеяння. Старая форма рэгістрацыйных дакументаў для іншаземцаў страціла сілу пасля 20 сакавіка 1996 года.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі» і радыё «101.2» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

### ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ.

Жыхар Лондана Пітэр Сміт вызначыў «кошт» памёршай жонкі.

А справа ў тым, што Пітэр зноў ажаніўся. Аднак другая жонка, на яго думку, не мае і палову тых якасцей, якімі валодала першая: не здольна яна справіцца з хатняй гаспадаркай і глядзець за садам. Пітэр падаў у суд на страхавую кампанію з патрабаваннем кампенсаваць страты, нанесеныя ў сувязі з дадатковымі расходамі. Суд разгледзеў прэтэнзіі істца і прысудзіў страхавой кампаніі выплачваць Пітэру штогод 25 тысяч фунтаў на зарплату кухарцы і садоўніку.

***Экстра-Прэс***

*Прэс-цэнтр МУС паведаміў усім аддзяленням міліцыі, што за выяўленне падпольнага цэха па вытворчасці гарэлкі «Доўгань Хлебная» была выплачана 100 мільёнаў рублёў. Калі будзе выяўлена некалькі цахоў — 100 мільёнаў за кожны. Іронія гэтай вымушанай акцыі заключаецца ў тым, што менавіта гэта гарэлка здавалася найбольш абароненай ад падробак — пашпарт з пяццю ступенямі абароны, дадатковая імпартная этыкетка, нумар на кожнай бутэльцы...*

***«Известия»***

Пад дамашні арышт трапіла брыгада дзіцячай «хуткай дапамогі» Індустрыяльнага раёна Пермі. Прыехаўшы па выкліку да дзіцяці, урачы вырашылі яго шпіталізаваць, але ні адна з бальніц, куды заяджала брыгада, не ўзяла малыша. Прыйшлося вярнуцца дадому. Усхваляваныя бацькі, запусціўшы ўрачоў з дзіцем у кватэру, зачынілі дзверы на замок і пасадзілі ля дзвярэй сабаку. Яны патрабавалі, каб медыкі дзяжурылі каля хворага ўсю ноч. Аднак, даведаўшыся, што такая брыгада на ўвесь раён адна, а хворых дзяцей шмат, бацькі злітаваліся і выпусцілі ўрачоў на волю.

***ЕАН***

### ШКОЛА ВЫЖЫВАННЯ

# ЯК НІ ДЗІЎНА, АЛЕ КАЛІ ХТО ДБАЕ, ТОЙ І МАЕ

«Прамысловасць кот за адну вячэру з'есць, і не падавіцца». Так можна сказаць прашу прабачэння пра аб'ёмы выпускаемай зараз некаторымі калектывамі Віцебшчыны прадукцыі. На камбінаце шаўковых тканін, напрыклад, яны склалі летась 7,7 працэнта ад ўзроўню 1990 года, у акцыянерным таварыстве «КІМ» — 16. Усяго па вобласці аб'ём вытворчасці прамысловай прадукцыі ўпаў на 55 працэнтаў, колькасць работнікаў знізілася на 20 працэнтаў. Здаецца, трэба і надалей пазбаўляцца ад «лішніх» людзей, але старшыня Віцебскага аблвыканкома Уладзімір Андрэйчанка забараніў далейшае скарачэнне работнікаў.

Прагучала гэта заява на пашыраным пасяджэнні аблвыканкома з удзелам прадстаўнікоў міністэрстваў, канцэрнаў і кіраўнікоў калектываў. Сапраўды, калі не спадзявацца на сябе, то тады на каго? Але там, дзе па-сапраўднаму шукаюць выйсце, яго знаходзяць... Так, як на Обальскім керамічным заводзе.

Год назад, калі прыняў прадпрыемства новы дырэктар— Мікалай Скамарохаў, яно прастойвала, «напрацаваўшы» 4 мільярды запазычанасці і штрафаў. Новы дырэктар не стаў ківаць на крызіс, а закасаў рукавы. І года не прайшло, а пра загублены дзесьці паміж Шумілінам і Полацкам завод загаварылі ў прэсе. Падставай паслужыла прызнанне ў Маскве, якое атрымалі обальцы за пастаўленую цэглу асаблівага колеру на рэканструкцыю знакамітых Васкрасенскіх варот. Прадпрыемства атрымала са сталіцы Расіі новыя заказы — на ўзнаўленне храма Хрыста-збавіцеля.

Расказваючы пра «эканамічны цуд», Мікалай Рыгоравіч пра апошнія факты неяк і не ўспомніў, гэтыя заказы вялікай ролі не адыгралі. Ды і цуда наогул не прызнаў, сказаў толькі, што новыя ўчасткі далі магчымасць прыняць на работу дадаткова 40 чалавек.

Спецыяльнага абпалу цэгла — не адзінае, што пачалі выпрабляць. Арганізавалі таксама выпуск дарожных пліт, нестандартнага абсталявання, кансольных ваганетак, рукавіц. Усё наяўнае абсталяванне запусцілі, яно пачало працаваць на папаўненне абаротных сродкаў. Адначасова распачалі рэканструкцыю цэха N 1, абнаўлялі асноўныя фонды. На гэта выдаткавалі летась 2 мільярды рублёў, але затое ўдвая зменшылі выпуск бракаванай прадукцыі. За год такім чынам удалося павысіць тэмпы росту на 122 працэнты. Сярэдні заробак працуючых склаў 1024 тысячы рублёў, прадпрыемства разлічылася з запазычанасцямі, і цяпер не дапускае іх ні па заробках, ні па электраэнергіі.

Асаблівую ўвагу ўдзяліў новы дырэктар аддзелу збыту, і ў лексікон обальцаў трывала ўвайшло новае тут слоўца «маркетынг». 11 спецыялістаў абноўленай службы дарэмна хлеб свой не елі. Обальская прадукцыя будтрэстам не ідзе, таму размяшчаць заказы даводзіцца самім. Ды і наогул, толькі 27 працэнтаў яе бяруць беларускія спажыўцы. Затое 11 абласцей Расійскай Федэрацыі сталі пастаяннымі партнёрамі обальцаў, па 150 адрасах адгружаецца чырвоная цэгла. Выношваюць тут новыя планы. На тэрыторыі прадпрыемства знаходзіцца бітумны завод, які даўно прастойвае. Пацікавіліся магчымым збытам, выявілі, што попыт ёсць. Вырашылі запусціць. Мяркуецца, што рэнтабельнасць вытворчасці дасягне 48 працэнтаў, чакаемы прыбытак — 4 млрд. рублёў.

Праўда, прыбытак «з'ядае» ўтрыманне пасёлка, і далёка не ўсё ўзнаўляе бюджэт, але не адмахваецца ад яго праблем адміністрацыя. Летась справілі 32 наваселлі, вядзецца і далей будаўніцтва жылля і грамадскай лазні — адзінай на ўвесь пасёлак. У заводскім магазіне адпускаюцца ў крэдыт па больш таннай цане тавары першай неабходнасці.

Вазьму на сябе смеласць сказаць: на Віцебшчыне ёсць у кожнай галіне свае скамарохавы. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, на трэці прадпрыемстваў вобласці сёлета назіраецца тэндэнцыя да станоўчай дынамікі. Аблвыканком патрабуе гэтага ад усіх кіраўнікоў. Інакш, прабачце, іх чакаюць аргвывады. Да слова: за апошні час на 20 прадпрыемстваў вобласці прыйшлі новыя дырэктары, і амаль усюды гэта палепшыла становішча спраў.

**Паліна АЛЯКСАНДРАВА.**

# АКЦЫЙ У АБМЕН НА ЧЭКІ ХОПІЦЬ ДАЛЁКА НЕ ЎСІМ

**Становішча з чэкавай прыватызацыяй ў Беларусі апошнім часам нагадвае зацяжную зіму. Можа быць разам з першымі сонечнымі днямі наступіць адліга і ў галіне прыватызацыі? Хто ведае. А пакуль Міндзяржмаёмасць інфармуе не аб зусім станоўчых выніках.**

**ХТО АТРЫМАЕ ЧЭКІ?**

Да сярэдзіны сакавіка ў камісіі па налічэнню чэкаў звярнулася 5,6 млн. чалавек. Паводле слоў начальніка ўпраўлення чэкавай прыватызацыі Зінаіды Шаўчэнка, збываюцца самыя сумныя прагнозы. Ужо цяпер зразумела, што ў краіне атрымаюць чэкі максімум 76 працэнтаў грамадзян, якія маюць на гэта права. Напомнім, што налічэнне чэкаў заканчваецца 30 красавіка (прыём заяў), а выдача чэкаў (сертыфікатаў) працягнецца да 1 ліпеня бягучага года. Але варта падкрэсліць, што падача заявы яшчэ не азначае аўтаматычнай выдачы чэкаў. Калі да 1 ліпеня не атрымаеце сертыфікат у ашчадбанку, ваша права на іх атрыманне застанецца толькі на паперы. З гэтым паказчыкам справы якраз не зусім добрыя. Па сертыфікаты звярнулася толькі 3,6 млн. чалавек. 2 млн. грамадзян, з тых, каму чэкі налічаны, не ідуць атрымліваць сертыфікаты.

**ЯК ВЫКАРЫСТОЎВАЮЦЦА АТРЫМАНЫЯ ЧЭКІ?**

Поўнасцю ці часткова выкарысталі свае чэкі 1,1 млн. грамадзян. Для параўнання: налічана 443 млн. чэкаў, атрымана на рукі 324 млн., а ў цэлым уцягнута ў працэс абарачэння не больш як 100 млн. чэкаў. З іх 16 млн. былі пераафармлены іншым асобам (пакуль не выкарыстаны). У аплату маёмасці пры прыватызацыі ўнесена 25,7 млн. чэкаў (чэкі выкарыстаны па прызначэнню); 17 млн. спісана на акцыі спецінвестфондаў і прададзена 42 млн. чэкаў. Як бачым, насельніцтва працягвае актыўна прадаваць чэкі, а не выкарыстоўваць іх для пакупкі акцый прыватызуемых прадпрыемстваў. У той жа час у аддзяленнях Ашчадбанка ляжаць спісы 40 прадпрыемстваў, якія прадаюць свае акцыі. Адвідавочнае мноства акцый у аддзяленнях Ашчадбанка тлумачыцца ў асноўным адсутнасцю на іх попыту. А маёмасці, якая падрыхтавана для абмену на чэкі, ледзь хопіць на суму ў 117 млн. чэкаў. На думку шэфа чэкавай прыватызацыі, адсутнасць попыту на акцыі выклікана нізкай інфармаванасцю насельніцтва. Не апраўдаў сябе гуманны падыход да працоўных калектываў. Ім пакідаліся цэлыя чэкавыя пакеты акцый на вялікія тэрміны. Але пакеты своечасова не раскупліваюцца своечасова і ў канчатковым выніку трапяць на аўкцыёны для юрыдычных асоб.

З. Шаўчэнка ўказвае на спецыфіку абарачэння чэкаў. Да нядаўняга часу юрыдычныя асобы скуплялі і перапрадавалі вялікія пакеты акцый, а затым яны «выплывалі» ў льготным продажы ў працоўных калектывах. Парушаўся закон. Цяпер Міндзяржмаёмасць уносіць змены ў Палажэнне аб абарачэнні чэкаў і завяршае апрацоўку Палажэння аб адкрыцці спецрахункаў у ашчадбанках. Пасля прыняцця гэтых палажэнняў выкарыстанне чэкаў будзе больш накіраваным і толькі па прызначэнню.

**РОЛЯ СІФаў У ЧЭКАВАЙ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ**

Міндзяржмаёмасць за час чэкавай прыватызацыі выдала 42 ліцэнзіі на права работы ў якасці спецыялізаванага інвестыцыйнага фонду, што акумулюе чэкі «Маёмасць». За гэты час 4 ліцэнзіі былі адменены, дзейнасць двух фондаў прыпынена распараджэннем Прэзідэнта. 19 сакавіка гэтага года калегія міністэрства загадам № 60 адмяніла жыццё ліцэнзіі яшчэ 14 інвестфондаў. Начальнік чэкавага ўпраўлення запэўніў, што пры давядзенні статутнага капіталу да патрабуемай велічыні ліцэнзіі будуць аднаўлены. А пакуль на чэкавым рынку дзейнічаюць 22 фонды. Іх роля ў чэкавай прыватызацыі вельмі нязначная. Акцыянерамі гэтых СІФаў з'яўляюцца толькі 103 тысячы грамадзян. Яны складаюць 3 працэнты ад колькасці людзей, якія ўжо атрымалі чэкі. Фонды закамуліравалі 12,8 млн. чэкаў, а выкарысталі толькі 1 млн. чэкаў. Гэта адбылося не з-за невялікай колькасці праведзеных аўкцыёнаў, а ў большасці з-за слабай актыўнасці СІФаў. У двух апошніх аўкцыёнах удзельнічалі ўсяго 8 спецфондаў. Дырэктары такіх СІФаў у асноўным нетаропкія, асцярожныя і няўпэўненыя ў заўтрашнім дні. У гэтай сітуацыі кіраўніцтва Міндзяржмаёмасці такім гора-прадпрымальнікам прапануе спыняць сваю дзейнасць. Каб працаваць у гэтай галіне, патрэбны і асаблівы аптымізм, і вера ў будучыню, і ўменне распараджацца падобнымі сродкамі. Каб аблегчыць жыццё СІФаў, цяпер у Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь рыхтуецца праект правядзення спецыяльных аўкцыёнаў толькі для фондаў. Напрыклад, на 2-м і 3-м чэкавым аўкцыёне інвестфонды не змаглі зрабіць сур'ёзныя набыткі па прычыне жорсткай канкурэнцыі юрыдычных асоб і з-за боязі абанкруціцца. Аднак боязь гэтая такая вялікая, што, на думку спецыялістаў міністэрства, нават у льготным аўкцыёне будуць удзельнічаць не больш як 10 СІФаў.

**КАНФЛІКТ З ПРЫФам**

На гэты час сітуацыя такая: Міндзяржмаёмасць атрымала ад кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта даручэнне да 1 красавіка прадставіць праект распараджэння па ПРЫФу, якое павінна быць узгоднена з Пракуратурай рэспублікі. Вось спецыялісты міністэрства і ламаюць галаву ў пошуках шляхоў адкрыцця Першага рэспубліканскага. Выйсце, як заўсёды, ляжыць на паверхні: калі пракуратура не мае дастатковых падстаў для ліквідацыі фонду — трэба яго адкрываць. І няхай фонд сам вырашае (па закону, натуральна), як яму быць са сваімі акцыянерамі. У гэтай незразумелай сітуацыі больш за ўсіх, напэўна, нацярпеліся акцыянеры, якія ўжо не хочуць ні дывідэндаў, ні перавыбараў, а хочуць проста вярнуць свае чэкі. Абноўленае праўленне фонду чамусьці лічыць, што людзі жадаюць застацца ў ПРЫФе і працягвае абяцаць наіўным дзядулям і бабулям даволі сур'ёзныя дывідэнды. Каб вывесці ПРЫФ з «тупіка», неабходна вырашыць пытанне па пятай, апошняй падпісцы. Да сённяшняга дня яна не зарэгістравана. А грамадзяне, якія называюць сябе падманутымі акцыянерамі і ўкладчыкамі, з'яўляюцца проста падпісчыкамі. Кіраўнік чэкавай прыватызацыі падкрэсліла, што ў яе ёсць усе падставы лічыць пятую падпіску негрунтоўнай.

«Міндзяржмаёмасць праект распараджэння па ПРЫФу да 1 красавіка вынесе. Але канчатковае рашэнне будзе прымаць Прэзідэнт», — сказала ў заключэнне спадарыня Шаўчэнка.

**Сяргей КУРКАЧ.**

### ФУТБОЛ

# У ПРОЙГРЫШЫ ВІНАВАТЫ ТОЛЬКІ САПЕРНІК

**Няўдала правяла таварыскую сустрэчу з камандай Славакіі Нацыянальная зборная Беларусі, прайграўшы гаспадарам з буйным лікам — 0:4**

Яшчэ за дзень да гульні поле на стадыёне «Нітра» было сухім, а надвор'е стаяла сонечнае і бязвоблачнае. Праўда, напярэдадні сустрэчы пайшоў дождж, і спартыўная арэна славацкага 12-тысячніка ледзь не ператварылася ў балота. Менавіта ў такіх умовах і пачаўся матч, які судзіла брыгада польскіх арбітраў. Вароты нашай зборнай абараняў Валерый Шанталосаў. Аднак пакінуць іх «сухімі» яму не ўдалося. У першым тайме славацкія футбалісты пры дапамозе моцнага спадарожнага ветру двойчы пасылалі мяч у сетку варот беларусаў. Другая палова сустрэчы вялікіх змяненняў не прынесла. Усе намаганні беларускай зборнай завяршыліся безвынікова, а гаспадары яшчэ два разы прымушалі беларусаў пачынаць з цэнтра поля.

Пасля фінальнага свістка галоўны трэнер зборнай Беларусі Сяргей Бароўскі зазначыў, што гульня не атрымалася не толькі з-за дрэннага надвор'я. Па словах Сяргея Уладзіміравіча, сакавік —не самы лепшы месяц для беларускай зборнай, каб паказваць добрыя вынікі.

Да таго ж каманда мела некалькі шанцаў забіць, аднак зрабіць гэта не ўдалося. У такім выпадку спрацоўвае футбольнае правіла: не забіваеш ты — забіваюць табе.

А наогул, падвёў рысу настаўнік нацыянальнай каманды, матч са славакамі будзе для беларускай зборнай добрым урокам для падрыхтоўкі да наступных сустрэч.

Дарэчы, 1 мая беларусы гуляюць на выездзе супраць зборнай Польшчы.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*P. S. Матч маладзёжных зборных (да 21 года) Славакіі і Беларусі завяршыўся нулявой нічыёй.*

### КРЫМІНАЛ

# ПРАДАЎ КВАТЭРУ І... ЗНІК

**Сур'ёзную занепакоенасць у органаў пракуратуры выклікаюць факты аб знікненні грамадзян нашай рэспублікі. У мінулым годзе колькасць іх склала 728 чалавек.**

Законную трывогу выклікае знікненне грамадзян пасля продажу нерухомасці (дома, кватэры, машыны), і асабліва састарэлых і адзінокіх.

З'яўляюцца і факты знікнення цэлых сем'яў, што прадалі свае кватэры. Так, у Заводскім раёне Мінска ў двухпакаёвай кватэры пражывала сям'я Гогалевых (тры чалавекі — усе дарослыя). Натарыяльна афармілі продаж сваёй двухпакаёвай кватэры за 60 мільёнаў рублёў і разам з нейкім маладым чалавекам па імені Сяргей 27.12.95 года на машыне паехалі афармляць прапіску, чамусьці ў г. Заслаўе. Да цяперашняга часу месцазнаходжанне сям'і, нягледзячы на прымаемыя меры па іх пошуку, не ўстаноўлена. Пракурорам Заводскага раёна г. Мінска па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора.**

**Згубленае пасведчанне ліквідатара наступстваў аварыі на ЧАЭС N 471124 серыі А, выдадзенае на імя СІНКЕВІЧА Аляксандра Філіпавіча, лічыць несапраўдным.**

### СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.50 | 18.39 | 12.49 |
| Віцебск – | 5.39 | 18.30 | 12.51 |
| Магілёў – | 5.40 | 18.28 | 12.48 |
| Гомель – | 5.36 | 18.26 | 12.50 |
| Гродна – | 6.03 | 18.55 | 12.52 |
| Брэст – | 6.08 | 18.53 | 12.45 |

**МЕСЯЦ**

Першая квадра 27 сакавіка.

**ІМЯНІНЫ**

Пр. Савіна, Серапіёна, Аляксандра, Юліяна К. Бертольда, Віктарына

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі снег, мокры снег. Раніцай месцамі на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ў Віцебску — 0—2, Мінску, Гомелі, Брэсце, Магілёве — 1—3, Гродне — 2—4 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак будзе воблачна, часам пройдуць апаДкі. Тэмпература ўначы — 0—5 градусаў цяпла, удзень — мінус 1 — плюс 4.

